“Праз дождж” – трэці па ліку паэтычны зборнік вершаў берасцейскага паэта. У ім – спроба асэнсавання мінулага і сённяшняга жыцця, роздумы пра чалавечую годнасць, сяброўства, каханне, нашу, часам абсурдную, рэчаіснасць.

# РАСПАЗНАВАЦЬ ДУШОЙ СУСВЕТ

Літаратура, і найперш паэзія, ва ўсе часы гісторыі чалавецтва застаюцца захавальніцамі духоўнасці, гармоніі, красы – таго высокага і вартага, дзеля чаго жывуць народы на зямлі, дзеля чаго жыве і асобны творца. Мастацкае, узнёслае слова здольнае абудзіць неразвітую ці стомленую жыццём душу, тым больш прыгожая і шчырая паэзія на мілагучнай, пячотнай, такой, на жаль, не запатрабаванай у сённяшняй сацыякультурнай прасторы Беларусі роднай мове. У час, калі ад беларускай інтэлектуальнай эліты патрабуюць новых тэхналогій, інавацыйнай дзейнасці, якія б давалі грамадству вялікія матэрыяльна-фінансавыя дэвідэнты, душа берасцейскага паэта Васіля Дэбіша размаўляе з людзьмі і светам на матчынай мове – і таксама стрымана-далікатна, часта ўстрывожана, а часта роспачна і журліва… Ці стануць беларусы тэхнакратычнай нацыяй, як японцы ці кітайцы, – цяжка сказаць, відаць не зусім тая ментальнасць, але што застануцца ў гісторыі чалавецтва нацыяй журботных паэтаў – гэта пэўна…

Мне ўжо даводзілася пісаць пра першую кнігу гэтага паэта “Лісты да Мары”. Ужо тады было бачна, што паэзія Васіля Дэбіша пачынаецца з рашучага непрыняцця духоўнага прымітывізму, бязмэтнага існавання чалавека. Яго лірычны герой быў рамантыкам-максімалістам, які ўсведамляў

сваё высокае патрыятычнае прызначэнне.

Новая кніга паэта пісалася доўга, удумліва, мудра і непаспешна. І назва яе такая ж быційна-ёмістая – “Праз дождж”. Прайсці праз дождж, як і праз жыццёвыя выпрабаванні, можна па-рознаму: адзін намокне, закалее, пракляне ўсё, і душа яго стане халоднай і золкай. А іншы ўспрыме дождж як звычайную з’яву, або жаданае адхланне, ачышчэнне, за якім наступіць цяпло і абавязкова выгляне сонца з-за хмар. Памятаецца ёмістае, экспрэсіўнае параўнанне з першай кнігі паэзіі Васіля Дэбіша: “Як дождж я сам. І чорным небам навісла нада мной журба…”

Здаецца, што “за дажджом” лірычны герой новай кнігі Васіля Дэбіша не страціў арыенціраў – дабрыні і чуласці, а нават больш выразна бачыць дарагое, роднае, незабыўнае, абрысы якога не змые ніякая залева і плынь часу: Радзіма, каханне, святыя мясціны маленства, родныя сцежкі, па якіх маладая мама вяла неслуха-сыночка за руку, храм велічнай беларускай прыроды, якая дорыць чулай душы натхненне і адчуванне харастраства жыцця…

Новая паэтычня кніга складзена непаспешна, з выразнай кампазіцыйнай логікай – у ёй чатыры раздзелы: “Нерушны свет”, “Даспелым яблыкам”, “Полымя свечкі”, “Ніткі думак”.

Бачыцца, што душа паэта і яго лірычнага героя стала больш мудрай і відушчай, чым асабліва ўражваюць пайзажныя вершы. Вобразы прыроды

і рэчаіснасці эмацыянальныя, пяшчотныя. Светлыя фарбы ў паэтычнай лексіцы, чым ахвотна карыстаецца паэт, выдаюць у аўтары прыхільніка красы, паэта-імпрэсіяніста, здольнага словам зафіксаваць паўцені колераў, дзе суседнічаюць белыя, чыстыя з паўзмрочна-вечаровымі і зорна-начнымі.

Як і ў першай кнізе паэзіі, у новым зборніку, мабыць, яшчэ выразней, дакладней, густоўней гучыць захапленне лірычнага героя красой і хараством свету, за чым хораша бачыцца ўзнёслая і далікатная беларуская душа, здольная на багдановічаўскае маленне гармоніі, цішыні, суладнасці. Месяц, адзінокая хмарка, крык начной савы, "плёснула русалка па вадзе", "маладзік па небе плыў" – сапраўды, бы трапляеш у Багдановічава "зачарованае царства". Паэт чуе, як пахне цёплая ноч (верш "Ля возера"). У вершы "Андрэевічы" прырода прадстаўлена велічным храмам, дзе варта маліцца яго вялікасці жыццю. Сённяшняму урбанізаванаму чалавеку, несумненна захочацца ў лес-храм Васіля Дэбіша:

Іду я ў лес – даўным-даўно не спіцца, -
Дзе цесна пад іглiцаю грыбам,
Дзе можна адпачыць і памаліцца,
Дзе кожная паляна – нібы храм.

Далікатнасцю ўражвае перадача інтымнага свету закаханых у вершы "Матылёк". Вобраз-

матыў матылька сустракаецца ў вершах Васіля Дэбіша неаднойчы, ён эстэтызаваны і сэнсава ёмісты: то з ім параўноўваецца каханая, то зоркі ў небе… На жаль, мала хто ў наш век здольны маліцца зорачкам і матылькам, захапляючыся, любуючыся імі (верш "Дзіва").

Даўно заўважана, што паэт пачынаецца з маленства. І калі дзіцячая шчырасць, непасрэднасць светаадчування не страчаны на жыццёвых дарогах – паэт і паэзія застаюцца. Так сталася і ў лёсе В. Дэбіша-паэта. Сталымі людзьмі мы міфалагізуем тую залатую пару, калі адкрывалі свет і спасцігалі яго пекнату. Хораша, радасна адчуваць, перагортваючы старонку за старонкай новую кнігу вершаў Васіля Дэбіша, што яму ўдаецца несці праз жыццё душэўнае абаянне і гармонію, пачуццё красы, якімі шчасліва адарыла будучага паэта дзяцінства і юнацтва. Сёння ўжо сталы чалавек, ён вяртаецца ў думках да дарагіх, памятных мясцін, краявідаў, дзе шматабяцальны свет упершыню адкрываў свае дзівосы і акрыляў, натхняў чулую хлапечую душу. Кранаюча гэта гучыць у вершы "Крушня":

Заходзіць сонца. На ячмень гудліва
Садзіцца меданосная пчала…
Тут у дзяцінстве быў калісь шчаслівым,
І казка ў гэтых камянях жыла.

З дзяцінства захаваў паэт і прынёс у

сваю творчасць згадкі-сны аб бясконцай і неспасцігальнай красе, адтуль да яго і сёння прылятаюць добрыя птахі. Надзвычай кранаюць вершы “Маці”, “Казка маленства”, “Дыптых вяртання”, “У цёмнай хаце раптам пасвятлела”, дзе белы бусел вяртання самотна кружляе над роднай апусцелай хатай. Там, у залатым маленстве, усё яшчэ дрэмлюць дзіўныя казкі, а пастарэлыя дрэвы роднага сада шэпчуць голасам матулі (верш “Ратуе ад жыццёвага шаленства”).

Будучым даследчыкам творчасці Васіля Дэбіша падкажу: у вершах паэта цікавым і арыгінальным сэнсам рэалізуюцца вобразы-матывы птушак – як добрых, так і ўвасабленняў негатыўнай умоўна-мастацкай энергетыкі (ненажэрны воран, сава, што затаілася, кажаны ліхія, крумкачы, якія вострацъ дзюбы). Экспрэсіўнай напоўненасцю запамінаецца вобраз жанчыны, якая з’яўляецца антыподам каханай: яна то ваўчыца, то прыгожая гадзюка, яна ж – “жанчына з д’яблам за плячыма”…

Паэт уражвае трапнымі вобразнымі знаходкамі. Асацыятыўнай метафарычнасцю (“дуб адзінокі, за ноч пасівелы, прамёрзлымі вуснамі неба цалуе”, “снег рамонкамі квітнее”).

Як і ў папярэдняй творчасці, паэту ўдаюцца прыёмы міфалагізацыі літаратурна-мастацкага вобраза (вершы “Стрыбог”, “Пан”, “Дажджбог”, “Пярун”, “Лямуры”).

Запомніцца чытачу абагульнены вобраз паэта, створаны ў шэрагу вершаў – самотны

творца прагне паразумення са сваім народам, які добраахвотна нясе сваё слова, родную песню на клады (вершы “Крыж”, “Як памірала вёска”). А калі чытаем верш “Мова”, амаль фізічна адчуваем: чужая мова – нібы чужая вопратка, у якой няўтульна беларусу…

Паэту В. Дэбішу ўдаюцца трыялетныя жанравыя формы (“Трыялет”, “Яна ўсміхнулася гулліва” і інш.).

Праз жыццё, як нават праз восеньскі дождж, ці варта ісці ў самоце?..

Выйшаўшы з вясенняй раніцы залатога маленства нястомна ідзём шляхам быцця, спасцігаючы спрадвечныя ісціны, распазнаючы душой сусвет. Аб гэтым пранікліва і шчыра піша берасцейскі паэт Васіль Дэбіш.

*Зоя Мельнікава,*
*доктар філалагічных навук, прафесар*

* * *

Соладка пасля дажджу пахне цёплая ноч.
Ясная  поўня гарыць у просіні белых хмар.
Радасна ў садзе маім, шчасна пяе салавей.

Шчокі мае кранае  пальцаў тваіх агонь.
Вусны цалую нясмела – рукі  мае дрыжаць.
І зарапад малады – у небе і на душы…

Здаецца, ўчора было... Трыццаць гадоў мінула…

## САКАВІК

Загудзеў цеплаход,
Абудзіў крыкі чаек.
Хворы, кашляе лёд
І ў слязах памірае.

Подых цёплых вятроў
У дарогу нас кліча.
Абуджаецца зноў
Дзіўны свет, таямнічы.

Цені хісткія дрэў…
Ажывае пад вечар
Птушак радасны спеў
І ляціць у сінечу.

Ад кастра – шызы дым.
Ціха дзень дагарае.
А ў паглядзе тваім
Заранiца жывая.

## УЦЁКІ

Кладзецца на зямлю духмяны вечар.
Лугі густыя, дзе туман пасецца…
Збягу я ў сад, дзе водар бэзу ўецца,
Каб пра жыццё падумаць і пра вечнасць.

Каб ад штодзённых будняў абудзіцца,
Каб з сілаў часу выбрацца нябачных…
Схіліўся ў небе месяц, як начніца,
Пасе паўзмрок. І слых мой вецер лашчыць.

Так добра тут. Квітнее куст язміну.
Арганнай музыкай гучыць бусліны клёкат.
Пад вечар хату душную пакіну.
Збягу я ў храм – без даху і без вокан.

* * *

Цёплыя фарбы вясны.
Звонка спявае салоўка.
Бацька на градцы з рыдлёўкай.
Сцелецца пах смаляны

Дошак сасновых. За плотам
Дзеці ганяюць футбол.
Сад, поўны восаў і пчол,
Поўніцца сонцам, як соты.

Радасць, здзіўленне, спакой –
Бэз палымнее ружовы.
Шчасна цурчыць малако
З цёплага вымя каровы.

* * *

Не спалася. Не змружыў нават  воч.
Бо страціў сон, бо хтосьці мяне клікаў.
Ці гэта жураўліны клін курлыкаў?..
Ці  згадкі мяне клікалі праз ноч?..

Свяціўся чысцінёю сад мой белы,
І пах мядовы з груш і яблынь цёк.
І ясна так, так светла  зіхацела,
Бы сотні сонцаў, мокрае лісцё.

## ЯБЛЫЧНЫ СПАС

Жнівень. Вецер. Нудны дзень і шэры.
Холадам павеяла з двара.
Спелыя антонаўкі і бэры
Сонцамі ў садку маім гараць.

Яблычны мой спас. Кружляюць восы,
П’юць салодкі яблычны напой.
Дзень кароткім стаў... Яшчэ не восень...
І птушыны спеў над галавой

Не змаўкае. І мацнее вера –
На зямлі яшчэ я пажыву...
Спелыя антонаўкі і бэры
Сонейкамі коцяцца ў траву.

* * *

У квяцістым садзе – звонкім, белым, –
Дзе ад вачэй  людскіх калісьці
Мы схоў знаходзілі пад лісцем,
Адзіны клён цяпер счарнелы.

Няўцешна між галінак голых
Музыка-вецер зранку грае.
І птушачак напеў вясёлы
Нас назаўсёды пакідае.

Дождж ледзяны хаўтуры ладзіць
Па травах, кветках, што завялі...
Больш не схавацца ў дзіўным садзе
Ад позіркаў людскіх і жалю.

## ДЗІВА

Я бачыў дзіва. Пасярод вясны
Прачнуліся пад сонцам матылёчкі
І паляцелі ў неба цёплай ночкай.
І зорачкамі ўспыхнулі яны.

## МАЛАДОСЦЬ

*Маладыя гады,*
*Маладыя жаданні…*
*М. Багдановіч*

Мяты пах вечаровы,
Дзень свой бег завяршыў.
Незабыўныя словы.
Саду квет у душы…

Радасць першай сустрэчы,
Рук яднанне і сноў.
Па-над вёскай – сінеча.
Лёт начных матылёў.

Зорак яснае ззянне.
Неба светлага пас…
О, як многа кахання
Назапасіў нам час!

## ЛЯ ВОЗЕРА

Навокал цішыня. Сціх голас спеўны
Шпакоў і ластавак. А месяц знік
За хмаркай адзінокай. Неспадзеўна
Савы начной разбіўся кволы крык

Аб светлыя, сярэбраныя хвалі.
Сыч з гушчароў ёй адазваўся дзесь.
А зоркі ў небе ясна так заззялі,
І плёснула русалка па вадзе.

## ПАТОП

Гляджу на неба:
бясконцае сіняе мора,
каўчэгам месяц  плыве адзінокі –
шукае сушу…

## МАЛАДЗІК ПА НЕБЕ ПЛЫЎ

Маладзік па небе плыў.
Стаміўся.
Кінуў вёслы на зялёную траву
і пацёк сырадоем на палі і лугі...

А на пальцы мне падаюць
кроплі белага туману.

## АНДРЭЕВІЧЫ

Ні тэлевізара, ні радыё. Квітнеюць
Вакол  сады. А травы бачаць сны.
Яшчэ на небе ночка зоркі сее,
Пакуль маўчаць царкоўныя званы.

Іду я ў лес –  даўным-даўно не спіцца, –
Дзе цесна пад ігліцаю грыбам,
Дзе можна адпачыць і памаліцца,
Дзе кожная паляна – нібы храм.

Іду я ў лес. Зялёных дрэваў шаты.
Яшчэ хвіліна – зазвіняць званы.
Дзіўлюся: нібы прывіды, з-за хатаў
Нясуць на крылах сонца кажаны.

## ВЕЧАР

Павіс, як вэлюм, месяц на кусце.
Цень дрэва ажывае і расце.
За паваротам сонейка знікае
І чуецца паўсюдна шэпт – “Кахае!”
Іду я на спатканне акрылёны.
А салавейка ўсё пяе натхнёна.
Няма ані хвіліны, каб спыніцца …
Ляціш насустрач мне ты бліскавіцай.

## МАТЫЛЁК

Мы выйшлі на прастор. Ах, цішыня якая!
У немаце  лёт жураваў я чую.
Сеў матылёк на кветку палявую.
Б’е крыльцамі. І, раптам, замаўкае.

Між хмарак месяц малады вяслуе.
Мы ў хвалях кветак, ціхіх траў знікаем.
Праменьчыкі  вачэй тваіх цалую…
Ты матыльком на кветцы заціхаеш.

* * *

За вокнамі згасае дзень паволі:
Цямнюць: лес, дамы, лугі, аблокі
І адзінокі куст шыпшыны ў полі.

І месяц малады між хмар плыве.
Чутны яму – маёй каханай крокі,
Што сціхлі ў роснай, шоўкавай траве.

## КРУШНЯ

Сярод камення выспелі суніцы.
Зашамацеў вужачына ў траве.
Ступлю на крушню – сціхне, затаіцца…
Бязгучна нада мной мой час плыве.

Заходзіць сонца. На ячмень гудліва
Садзіцца меданосная пчала …
Тут у дзяцінстве  быў калісь шчаслівым,
І казка  ў гэтых камянях жыла.

## У САДЗЕ

Як ручаёк, твой голас лёткі
Плыве, таемнасцю здзіўляе.
Павеўны ветрык так салодка,
Так ціха дрэўца калыхае.

У сэрцы травень чуласць песціць,
Вясёлкай каляровай ззяе.
Імкнецца людзям радасць несці,
Пялёсткі кветкам раскрывае.

Ты пасміхаеншся прыгожа,
І вочы свецяцца пяшчотай.
Свет у лятунках тоне гожых
Кахання, радасці і цноты.

* * *

Цябе прыкрыў мой парасон
Ад нечаканай навальніцы.
Так блізка мы... Ці гэта сон?..
І страх, і гром, і бліскавіцы.

Нядоўгім быў лагодны дождж...
Мінулася і тое лета.
Мы развіталіся. І ўсё ж
Цяплом дажджу я быў сагрэты.

* * *

Яшчэ пяе жаўрук для нас дваіх.
Высока сонца адплывае ў лета.
У каласы збіраецца палетак.
Такі шчаслівы, светлы гэты міг

Каханне. Нават дождж бурлівы сціх.
Я сонейкам вачэй тваіх сагрэты.
Яшчэ пяе жаўрук для нас дваіх.
Высока сонца адплывае ў лета.

## ЗІМОВЫ ДЗЕНЬ

1

Зіма. Быў дом нібыта склеп.
А выйшаў з цемрадзі, – вітае
Бель недасяжная, густая.
Ад снегу свет вакол аслеп.

Так радасна. Душа спявае.
Стаць воблачкам бялюткім мне б
І паляцець над родным краем…
Ад снегу свет вакол аслеп.

2

Як куст язміну, снег расцвіў.
Цячэ навокал бель густая.
Пад сонцам снег іскрыцца, ззяе.
Мільгнуў праменьчык і паплыў

Над паркам, горадам, над краем.
Ці аднаго мяне здзівіў
Праменняў цуд, што ў гурбах ззяюць?..
Як куст язміну, дзень расцвіў.

3

Дзіцячы звонкі льецца смех.
Ніводнага навокал ценю.
Ляціць сняжок з кустоў і стрэх,
Нібыта песня ці маленне.

Ля парка я спыняю крок.
Святочнае яго адзенне.
З кустоў і дрэў ляціць сняжок,
І душаў спее ачышчэнне.

* * *

Снег выпаў апоўначы –  чысты і белы,
Нібыта хто з гляка разліў малако.
Так светла навокал. Ступаю нясмела.
І нерушны свет я кранаю рукой,
Такі нетрывалы, святочны і сонны.
Баюся дыхнуць, неўзнарок абудзіць
Бяздушных людзей, ненажэрных варонаў,
Каб свята маё не змаглі ачарніць.

* * *

Схавалася поўня за хмаркай высокай.
Маўклівa, дрымотна тут. Спіць наваколле.
Халоднае неба глядзіць сонным вокам
На снег, на дарогу… Іду я праз поле.

Марозіць. Сава на калодзежы белым
Стаілася. Кіпці ў здабычы. Балюе.
А дуб адзінокі, за ноч пасівелы,
Прамёрзлымі вуснамі неба цалуе.

## СНЕЖНАЯ НОЧ

Снег ідзе ўсё, ідзе. Я люблю снегапад.
Зацярушаны снегам дарога і сад.
Гоніць вецер халодны – нібы акіян –
Хвалі снежныя… Снежны ахутаў туман
Горад сонны. Наўкол ні людзей, ні святла.
Толькі морак начны ды начная імгла.

* * *

З усходу нерухомага
злятаюць маркотна
зоркі ў сумёты.

Сядзяць крумкачы
і вострацць дзюбы
аб снег гартаваны.

## КЛОПАТ

Восень зрывае з дрэў жоўтае лісцё.
Клапатлівай маці
ўхутвае астылую зямлю,
сцеле дарогу новай вясне.

* * *

Зіма. Сцюдзёна дзень каторы.
Ды толькі хараша і вабна:
Уся зямля – нібыта мора,
Успененае белай фарбай.

Сумёты. Велічна. Таемна.
Ва ўсім гармонія, адзінства:
Нібыта сон невераемны
Вярнуўся з даўняга дзяцінства.

Адтуль і птушка прыляцела,
Кружляе весткай між дамамі…
Мой горад – быццам ветразь белы,
Плыве, схаваны туманамі.

* * *

Так добра мне было даўно…
Учора – гразь, цямрэча, холад.
А сёння – глянуў у акно:
Куды ні кінь, святло наўкола.
Нат следу чорнага няма.
Ноч напралёт мяла завея.
Смяецца радасна зіма,
А снег – рамонкамі квітнее.

* * *

Высокае маўчанне купалоў.
А болей што, а болей што мне трэба?..
Пад гэтым чыстым і высокім небам
Прыемна крочыць  без разваг і слоў.

А можа, гэта ўсё  і ёсць любоў:
Прылівы радасці, туга па небе.
Высокае  маўчанне купалоў.
А болей мне нічога і не трэба.

## МАЦІ

Ноч. Фіранка. Зор мігценне.
Галаву схіліла нізка
Маці. Вочапка. Калыска.
І ляцяць, ляцяць імгненні.

Сном глыбокім, бестурботна
Спіць дачушачка малая.
Маці не засне. Люляе
Цэлы свет рукой пяшчотнай.

## КАЗКА МАЛЕНСТВА

Пахне ад раніцы воўнаю ў хаце.
Велічна ў печы агонь зіхаціць.
Боршч і аладкі нясе на стол маці.
Конік у садзе так шчасна звініць.

Бацька кляпае касу на падворку,
Гукі касы да нябёсаў плывуць.
Радасна падаюць спелыя зоркі
Зорным дажджом у густую траву.

## ДЫПТЫХ ВЯРТАННЯ

1

Бацькоўскі кут. Тут лёгка думаць.
Аконны не лякае крыж.
Няма тут гарадскога тлуму,
Вар'яцкага трызнення. Ціш.

Мне гэты кут здаецца раем.
Іду праз бор. І, як раней,
Як у дзяцінстве, ноч люляе
Лістотай соннаю мяне.

2

Матуліна хаціна. За сталом
Сяджу я. Думаю, палонены самотай.
Заходзіць сонца. Морак за акном.
Нібыта здані, яблынькі за плотам.

Лапоча ціха матылёк. Ляціць
Жук праз аконца. Зорачка над краем,
Такая адзінокая, трымціць, –
І разам з ёй – душа мая жывая.

* * *

У цёмнай хаце раптам пасвятлела.
Помню, ад здзіўлення закрычаў:
Белы бусел, асляпляльна белы,
Па-над хатай велічна кружляў…

Адплыло маленства, адзвінела
Галасістай песняй маладой…
Белы бусел, асляпляльна белы,
Назаўсёды ў памяці маёй.

* * *

Ратуе ад жыццёвага шаленства,
Як свята для душы і для вачэй,
Той луг за вёскай, дзе жыве ручэй,
Дзе дрэмле казка дзіўная маленства.

Там пастарэлы сад. А ў агародзе
Пякучка-крапіва. Пахілы дах.
У час вячэрні прытамлёны птах
Не першы год тут схованку знаходзіць.

На смак вада ў крынічцы – проста цуд.
І дрэвы шэпчуць голасам матулі,
І летуценні, што ў душы заснулі
Даўным-даўно, зноў ажываюць тут.

## ПЕЎНІК

На Пакрову бацьку пахаваў...
Снег ішоў, такі бялютка-чысты.
Плакаў я.
            А на двары спяваў
Бацькаў пеўнік, звонкі, галасісты.

Я забіць яго хацеў...

Найвялікшы быў тады мой гнеў.
І падняў сякеру.
                        І магчыма...
Ды жахнуўся: пеўнік на мяне
Паглядзеў ягонымі вачыма.

## СТАРАЯ ХАТА

Старая хата.
Зайду.
Тут жыў мой бацька.
Шафа, пакрытая пылам.
Стол.
Іржавы ложак…
Прылягу на хвіліну,
прыціснуўшы да сэрца
цвілую падушку,
праплачу ўсю ноч…
А раніцай выйду адсюль шчаслівым.

* * *

Твой пагляд ясным сонцам асвечваў гадамі
Маё сэрца. Ды сонца пагасла ўжо тое.
Галава – на грудку. Свет засланы імглою.
Толькі крыжык пры мне – прыцiскаю рукою.

Спрацаваная, ты назаўсёды заснула.
Валасы пасівелыя вецер сцябае.
А душа – адплывае. У сцішаным раі
Хутка знойдзе яна свой апошні прытулак.

Я іду цяжкім крокам. Глухія падворкі.
Пацямнела ўваччу. Хлынуў дождж з хмараў
нізкіх.
Твар струмені сякуць. І галосіць вятрыска.
І балюча на сэрцы, самотна і горка.

* * *

За руку малога брала мама
І вяла. Я плакаў, я крычаў,
Вырываўся.  Гаварыў, што сам я …
Думаў, што даўно дарослым стаў.

Пасталеў. І дагаджаю  болю,
І далоні сталі ледзянець.
За руку не возьме мама болей,
Не суцешыць і не прыхіне.

* * *

Спелыя яблыкі ў кошык збірала
Моўчкі, задумліва, быццам у сне.
Грошы з кішэні без слоў даставала,
Гэтак жа моўчкі працягвала мне.

Помню: злаваўся. Крычаў, што не хочам
Грошы мы гэтыя браць. І ў адказ
Маці шаптала праз слёзы: "Сыночак!
Гэта ж я, родны, збірала для вас.

Вам больш патрэбныя гэтыя грошы!.."
Час прамінуў. Ды застаўся той сум…
Ціха збіраю  яблыкі ў кошык.
Моўчкі я іх на магілку нясу.

## У ГЭТЫМ ДОМЕ

Заледзянелі вокны ў доме гэтым.
Паіржавелі ў гэтым доме дзверы.
Гуляе толькі вецер па шпалерах.
Шкрабуцца мышы пад гарой газетнай.

Па вечарам не чуецца звон кроснаў,
Не льюцца песні мамы, як калісьці.
Ды ні ўваходу тут няма, ні выйсця.
І плакацца цяпер занадта позна.

Мінула шмат гадоў, і я паверыў,
Што страціў назаўжды кавалак свету...
Паіржавелі ў гэтым доме дзверы.
Заледзянелі вокны ў доме гэтым.

* * *

Прачнуўся я пасля расстання,
Аконца насцеж расчыніў.
Ступіў у хату, з сонцам, ранак,
Святлом вясновым дом заліў.

Гляджу звысоку: зелянее
Трава, сваволяць матылькі.
А ля акна любоў квітнее –
Рамонкі, ружы, гваздзікі…

Спіць любая. Сябе пытаю,
Як без яе пражыць я мог.
Маўкліва  з ранкам размаўляю,
Што ў дом мой увайшоў, як Бог.

## НАТХНЕННЕ

Дзівоснае яно,  душы натхненне:
Звініць, пяе, бруіцца, як крыніца
І адплывае ў Вечнасць праз імгненне,
Хоць ты і не паспееў ім наталіцца.

Дарэмныя замовы і маленні,
Бо з высахлай крыніцы не напіцца.
Пакуль звініць, пяе душа, бруіцца,
Пі пацалунак Вечнасці – натхненне!

## АДНА

Не заўважыў, як ноч падступіла, –
Пра цябе гэтак доўга  я марыў.
Ветрык – мараю той легкакрылай,
Толькі гнецца мой сад пад цяжарам

Спелых яблык і груш. А на небе
Усяго адна зорачка ззяе…
Для мяне… А мне болей не трэба.
Я адну цябе толькі кахаю.

## ЯШЧЭ…

Даспелым яблыкам лаўлю
Тваё пяшчотнае: “Кахаю!”
І, нібы  мёд, яго я п’ю.
Яшчэ далёка нам да краю.

Яшчэ халоднай пустаты
Не разглядзеў пад пазалотай.
Яшчэ не ведаю, што ты
Атрутным плодам станеш потым.

## ПАВУЧЫХА

Вунь павучыха. Я не зводжу воч
З яе і не гашу святло ў пакоі.
Яна ў куце, чарнюткая, як ноч,
І павуцінне тчэ над галавою.
Сіло зладуе, покуль стане днець…
Ах, мілая! Здаецца, гэта ціха,
Старанна тчэш ты путы для мяне,
Як гэтая начная павучыха.

* * *

Неўзабаве развітацца трэба.
Чуеш  голас ветру за сцяной.
З раніцы захмарылася неба…
Я цябе кахаю так даўно.

Да грудзей маіх пяшчотна туліш,
Любая, змакрэлы тварык свой.
Блаславляю дні, што прамінулі.
Ночы тыя, што правёў з табой.

Блаславлю і тыя, што надыдуць…
Хай гудзе вятрыска, рве масты…
У імглісты вечар з дому выйду
З верай светлай, што кахаеш ты.

## ДВА БАКІ

Ты глядзіш на мяне гэткім позіркам мілым
І ад шчасця аж свецяцца вочы твае.
Цэлы дзень, цэлы век сонца ярка свяціла –
Сёння з раніцы дождж надакучліва лье.

Не бывае каханне адно толькі светлым,
Бо за радасцю смутак прыходзіць такі,
Што душа разрываецца, нібы камета,
На шматкі … У кахання заўжды два бакі.

* * *

У кафэшным пракураным зале
(Я сюды заглянуў выпадкова)
Грае панна на  белым раялі
Вальс растання, трывожны, суровы.

Пра нязбытныя светлыя мары,
Што цвілі ў нашых сэрцах калісьці,
Пра каханне здрадлівае… Хмарна
Восень сцеле аблокі і лісце

На палі, па якіх мы гулялі,
На сцяжыны, што ў жоўтых сумётах…
Грае панна на белым раялі
Маёй восені сумныя ноты.

* * *

Зімовы вечар. Развітацца час.
Ды цешаць нас нявінныя забавы:
Экспромты прыдумляю я для вас.
Агонь  у грубцы. Астывае кава.

Гаворым пра вясну. Паэтак юных.
Ды пустатою веюць тыя словы,
Запозненыя, нібы пацалунак,
Паспешлівы і неабавязковы.

## РЭЎНАСЦЬ

Світае. Узыходзіць сонца.
Крадком, паціху, асцярожна
Праменьчык пырхнуў праз аконца
На падваконне і на ложак.

Прылёг на коўдру на імгненне,
Тваю падушку пакамячыў.
А потым на тваіх каленях
Стаіўся, думаў я не бачу.

Нахабна твае грудзі песціў.
Але не доўга забаўляўся:
Я вокны ў хаце занавесіў,
Каб на маё не спакушаўся.

## ВАЎЧЫЦА

Твае цалаваў я халодныя вусны
У змроку начным. І была ты сама,
Бы лёд… За прытворнай усмешкаю – пуста.
А з вокнаў за намі сачыла зіма.

Ціхутка тады б ад цябе аддаліцца,
Ды ногі нібы да зямлі прыраслі.
О, як твае вочы глядзелі – ваўчыца!
О, як маё сэрца яны апяклі!

* * *

Як позна, мілая, як позна
Адно другога пакахалі!..
Марозы, мілая, марозы
Раллю асеннюю скавалі.

Дарэшты, мілая, дарэшты
Юнацкія разбіты  мары.
Дарэмна, мілая, дарэмна
Шукаць прасвету ў небе хмарным.

Самотна, мілая, самотна.
І нават сэрца халадзее.
Сумёты, мілая, сумёты…
Так жудасна мяце завея.

* * *

Ты кінула апошні свой папрок
Пад ногі. Даравання не малю.
Заціхла бура. Апусціўся змрок
Бязмоўнай чорнай птушкай на зямлю.

Ну што ж, бывай!.. Парог імкліва твой
Пераступіў. Адно за спінай смех
Ляцеў услед, апалены журбой, –
Як ворана пяро, – на белы снег.

* * *

Ноч. Гадзіннік адбівае поўнач,
За сцяною ные кантрабас.
Пазірае праз аконца поўня
Позняй госцяй… Я кахаю Вас…

Сорак мне. Вам толькі дваццаць восем.
Дом прыбраў. А тэлефон маўчыць.
Злосна чорт  у коміне галосіць,
І туга такая, хоць крычы.

Як мне быць і што рабіць – не знаю…
У ноч пайсці ці дачакацца дня?..
Вусны шэпчуць прагнае “Кахаю!”,
А ў адказ – нямая цішыня.

* * *

Вы не згадаеце мяне.
Вы не паклічаце. Я знаю.
Я зведаў смутак па вясне.
Ды я шчаслівы. Я – кахаю…

## ЯБЛЫК

Сакавіты яблык працягваеш, –
надкусаны,
палоска памады  на краі…
Разламаў  яблык  –
чарвякі паўзуць,
звіваюцца,
глядзяць на мяне
вачыма тваіх каханкаў.

## ТРЫЯЛЕТ

Мілая, ты снішся мне
Гэтак радасна, жадана.
Светлая, нібыта ранак.
Чыстая, як першы снег.

Л’ешся музыкай аргана,
Дзіўнай, казачнай, у сне.
Гэтак радасна, жадана,
Мілая, ты снішся мне.

* * *

Яна ўсміхнулася гулліва –
Жанчына з чорнаю касой –
І знікла. Толькі што за дзіва!
Я цэлы дзень быў сам не свой.

Хадзіў па вуліцах шчаслівы
І вершыкі складаў я той
Жанчыне з чорнаю касой,
Што мне ўсміхнулася гулліва.

## ГУЛЬНЯ

Як сочыць за сваёй ахвярай звер,
Сачу я за табой, падобна зверу…
Не вер мне, мая любая, не вер.
Не вер мне ты, як я табе не веру.

* * *

Мне страшна, што цябе магу згубіць.
Прачнуся, а цябе нідзе няма.
За вокнамі вятрыска будзе выць.
І снегапад. І … вечная зіма.

І дзён не будзе. Толькі змрок начэй
Наўкол, такі халодны і пусты…
Цябе тулю пяшчотна да грудзей.
Якое шчасце, калі побач ты!..

* * *

Агнём далоні сэрца апяклі.
Такога я даўно не знаў пажару.
Прамені пальчыкаў тваіх цяклі
Па валасах маіх, руках і твары.

Так радасна, так добра нам дваім
Было, што ў цэлым свеце пасвятлела.
А ў сэрцы мятлік трапятаў маім.
Свяцілася тваё бурштынам цела.

І ўся была ты светлаю, як дзень.
І трэба ж так мне раптам абудзіцца…
Адзін. Зіма. Ад сонца – толькі цень.
За шклом трапеча мятлік сонны крыльцам.

* * *

Не бачыў дзень – здаецца, век мінае.
Каханая, пакорліва ў журбе
Цябе чакаю. Сэрца знемагае
Ад любасці. За кожны міг табе
Удзячны я – за кожны міг адчаю,
Маўклівасці, надзеі, адкрыцця, --
Перад табою галаву схіляю
За кожны непаўторны міг жыцця.

* * *

Паспелі яблыкі, салодкія, як мёд.
Ноч. Цішыня. І ясна неба ззяе.
Шалёны восень водзіць карагод.
За рукі ўзяўшыся, з табой гуляем
Па яблыневым садзе. Шчасцем твар
Твой свеціцца. Бы ружа маладая,
Ты ўспыхнула. Гарачых вуснаў жар …
Звон яблыкаў … А зоркі ападаюць.

## ГАДЗЮКА

Гадзюка ты, прыгожая гадзюка!
Не кроў, атрута па тваіх цячэ
Халодных жылах. Ледзяныя рукі.
І бачу холад я тваіх вачэй.

Атрутны пацалунак свой панура
Не дорыш ты, а пазычаеш мне.
Зняла сукенку лоўка, нібы скуру.
Галюткая зусім стаіш, як снег.

Як першы снег, прыгожая. Здаецца,
У месячным святле перада мной
Не чалавек – гадзюка так віецца,
Што ля карча спалохана вясной.

Халодны снег пад промнямі іграе.
Мне ж песня капяжоў чаруе слых…
Гадзюка ты – прыгожая такая…
Ці падалося мне, на нейкі міг.

* * *

Хочаш – стану поўняй
для цябе, – прамовіла ты,
і твар твой наблізіў
мой світанак.

Хочаш – стану сонцам, –
усміхнулася ты,
і паліліся сонечныя промні
твайго цела.

Хочаш – стану небам,–
расчулілася ты,
і атуліла мяне цеплынёй
сваёй душы…

## РАБ І КАТ

Я – раб твой, любая. Тваіх
Хімераў, выдумак, жаданняў.
Служыць табе – маё прызванне
І цэлы век, і кожны міг.

Я – раб твой, любая… Ці кат,
Што прагне і душы, і цела,
Што засланіў каханнем дзверы
І ў весні дзень, і ў снегапад?..

Я – раб твой, любая. І кат…

* * *

Каханне з чыстымі вачыма.
Яна прыйшла, як сон прадвесні.
Анёлы за яе плячыма
Спявалі радасныя песні.
Ды сон мінуў… Працёр я зрэнкі –
І тое не пазнаў паненкі.
Халодная, пустая, злая
Перада мной была жанчына.
Яна, адпіўшы з кубка чаю,
Пайшла… Быў д’ябал за плячыма.

## ПАРТРЭТ ЖАНЧЫНЫ

Партрэт жанчыны ў залатой аправе –
Каханне, лёс, абставіны, прыгода.
Жарт і махлярства, выпадковасць, мода –
Былі і выйшлі. Сцерлася выява.

А людзі мітусіліся вакол.
І не заўважыў дзіўнае ніводзін,
Што вось яна, жывая, побач ходзіць,
Што апусцелі рамка і чахол.

* * *

Воран важка перасёк дарогу.
Галаву падняў ён з-пад крыла…
Прамаўчала.
Не сказаў нічога.
Чорны воран. Чорная імгла.
Сціснуўся, замружыў вочы горад.
Ты пайшла.
Быў цвёрды, нібы мур…
Толькі птушка ведала і морак,
Як на свеце цяжка аднаму.

* * *

Прыехала на дзень і сэрца мне
напоўніла каханнем да краёў,
нібы віном, што асвятляе келіх,
з якога ты прыгубіла, і толькі.
Цяпер віно зусім не пунсавее
і не іскрыцца. Спакваля яно
губляе слодыч, пах п'янкі  і кісне …
Цябе няма. І ў келіху, і ў сэрцы
на дне асадак толькі.

* * *

Мая каханая, ісці няма куды.
Дождж крапае на вуліцы, лістота
Лянiва шамацiць над мокрым плотам.
Адчынена акно. Вакол  сады

Макруткія. Лісты, іголкі – жах!
Самотнае начное адпяванне…
Анёл мой, слоў не трэба пра каханне.
Нашто, калі ўвесь свет зямны ў слязах.

## КАЛІ МЫ ЎДВАІХ

Калі ўдваіх, не гавары: “Кахаю!”
Навошта словы. Бомы зор званчэй
Пра гэта скажуць, высненыя ўранні.
Пакінь для цёплых вуснаў і вачэй

Ты трошкі неба. Траваў пазалоту
Падсцелем, каб мякчэй было нам спаць.
А словы пра каханне будуць потым.
Пакуль жывём, спяшаймася кахаць….

* * *

*Любе*

Шчаслівы, што калісь цябе сустрэў,
Што ты са мною побач. Гэтак блізка.
Люблю твой голас, твой пяшчотны спеў
Над нашаю дзіцячаю калыскай.

Люблю цябе. Люблю, калі маўчыш,
Калі са мною проста размаўляеш…
Ты абняла мяне. Нячутна спіш.
І месяц малады твой сон  люляе.

## СВЕЧКА

Світае.
Паволі дагарае свечка мая.
Мігціць трывожным святлом.
Узіраюся ў цьмяна-дрыготкія вочы свечкі.
Бачу: дзіцяняткам бягу па квяцістай палянцы.
Весела  спявае ў блакітным небе жаўрук,
Радасна ўзыходзіць нада мною маладое сонца…
Бачу: шпарка крочу юнаком па зялёнай
някошанай траве.
Ярка палае сонца,
Звонка шуміць густая трава.
Ад дзявочых гарачых пацалункаў перасохлі
вусны…
Бачу: блукаю састараны ў нетрах начной імглы.
Чаму апусцелі нівы?
Куды сіратліва ляцяць гракі?
Няма адказу.
Дагарае свечка...

* * *

Калі не ў пашане паэты
І стрэлы ў іх душы ляцяць,
Блюзнерства дрымучае гэта
Вядзе нас на край забыцця.

Становіцца холадна свету.
Становяцца сэрцы – як лёд.
Калі паміраюць паэты,
Знікае тады і народ.

## ЛЯМУРЫ

Напаўміфічная раса – лямуры.
У змрочнай  і вогкай пячоры наш дом.
Льюцца дажджы, і галосяць віхуры,
Толькі  мы звыкліся з гэтым жыццём.

Ані дзвярэй тут няма, ні ваконцаў.
Сніцца даўно перасталі нам сны.
Нам  не патрэбнае яркае сонца,
Воч мы не маем – навошта яны.

Мы і не людзі жывыя, а цені.
Хто б падказаў нам, каторы ўжо год
Моўчкі блукаем  па змрочным скляпенні –
Дзеці і ўнукі атлантаў-багоў.

## СТРЫБОГ

Яго не стрымаць, не стрыножыць ніяк.
Па нівах, дарогах і пушчах
Імчыцца Стрыбог, наганяючы страх
На сонныя,  мёртвыя душы.

Ён птушкаю вольнай па свеце ляціць.
Свавольны, магутны, вялікі.
У вокны і дзверы грукоча, звініць,
І чуюцца стогны і крыкі.

І змрочныя думкі я з сэрца ганю.
За вокнамі, там, нехта плача…
І дух ажывае. І подых агню
Я чую, паганскі,  гарачы.

## ПАН

Кароў я пасвіў і авечак
Ля самай пушчы. Сонца з рук
Я выпускаў у ціхі вечар…
Ды раптам  грымнуў дзесь Пярун

За лесам. Наляцела хмара
З-за дрэваў сонных і нямых,
Нібыта восаў  рой  пачварны.
Ён вырваў сонца  з рук маіх.

І я пачуў шалёны рогат,
А потым хтось загаласіў.
То Пан, ахоўнік лесу строгі,
Насустрач мне няўмольна плыў.

Ён бліскаў чорнымі вачыма.
І дрэвы да зямлі ён гнуў…
Заціх… Ды доўга за плячыма
Шчэ адчуваў я жар агню.

## НОВЫ ДЗЕНЬ

Усемагутная Геката,
Паганскай ты, як я, крыві!
Прыйдзі да родных ніў, да хатаў
І Новы дзень ты ажыві.

Не дай майму загінуць роду.
Мне мужнасці і сілы дай.
Аберагай, славуты продак,
І мой народ, і родны край

Ад змрочнай, чорнай сілы ночы,
Ад здрады, ад ліхой бяды,
Бяспамяцтва, каб нам аднойчы
Не стаць мінулым назаўжды.

## ДАЖДЖБОГ

З вясной ён прыйдзе зноў, я знаю,
На сенажаці, на палі –
Дажджбог, бог сонца, ураджаю,
Святы агонь каб запаліць.

Агонь далёкіх продкаў, веру,
Абудзіць стылую зямлю.
Народ расчыніць вокны, дзверы.
Дажджы гаючыя пальюць.

Ён панясе агонь над краем:
Над Белай Вежаю, над пушчай…
Хай ярка полымя палае
На небе і – у нашых душах.

## ПЯРУН

Грымі, Пярун, бесперастанку.
Не думай, грозны, пра супын.
Будзі народ, пакуль не стаў ён
Зусім бязмоўным і сляпым.

Не заціхай ні ўдзень, ні ўночы,
Паплечнікам мне будзь. Заўжды.
Няхай агнём палаюць вочы
Твае і помсты, і жуды.

Вярні ты памяць нам былую.
Узвіся, горды, над гурмой
І цемру рассячы начную
Крывіцкай вогненнай стралой.

# КРЫВІЧЫ

Прысніцца мне забытая Айчына.
Зіма. Сярод уснежанай начы
Вяртаюцца з паходнямі мужчыны,
Абраннікі нябёсаў – крывічы.

Ляцяць, ляцяць раскрыленыя коні
Праз цемру ночы.  Выклікае жах
І лютасць на чужынцаў кліч Пагоні.
Трымаюць на Радзіму продкі шлях.

## БЕЛАЯ ВЕЖА

Нямыя камяні.
Халодныя байніцы.
Пагаслыя агні.
Забытыя бажніцы.

Самотныя званы
Не будзяць болей зорак.
Блукаюць туманы,
Бы прывіды, на ўзгорку.

Засохлыя стаяць
Дубы. Маўчаць крыніцы…
Іду да вежы я,
Каб продкам памаліцца.

## ЗОНЫ

Прыснілася: чырвоныя пагоны,
З вінтоўкаю на вышцы вартавы
І трупамі запоўненыя рвы,
І смерць – адно тут выйсце з гэтай зоны…

Навісла хмара чорная над краем,
Для Беларусі – зноў не лепшы час.
Зноў з мовы здзек. У зоны заганяюць
Рублёвыя, чарнобыльскія нас.

Мне слова “зона” слых балюча рэжа.
Хачу быць вольным я – абрыд палон.
Хачу свой край пабачыць незалежным:
Без халуёў, без дурняў і без зон.

## ІСНАСЦЬ

Я існасць шукаў. Быў упэўнены, дзесьці
Хаваецца тут, недалёка, яна.
Стос кніг прачытаў, выпіў многа віна,
Крануўся халоднае бездані смерці.

У пошуках гэтых паўсвету аб'ездзіў.
Начамі не спаў я. Ды толькі дарма.
Яе не знайшоў я.  Ці, можа, няма?
Ці мо прамінуў яе, блізкую, недзе?..

## ДЗІВАК

Поўны думак, стаіць на расстанні шляхоў,
Узіраецца ўдалеч  паглядам узнёслым.
Хоча храм ён знайсці, храм нязнаны, дзівосны,
З фарбаў безлічных, гукаў таемных і слоў.

Верыць ён: там народзіцца верш адмысловы,
Верш, які зачаруе ўсіх веліччу светлай.
Людзі ўдзячныя высекуць імя  паэта
Ля ўваходных дзвярэй на сцяне мармуровай.

Так ён думаў… Ды гасла, як свечка, надзея,
З цемнаты далятаў спеў аргана журлівы.
Ён не ведаў: паэт быць не можа шчаслівым.

Творца вечна адзін.  Хваляў хуткіх прылівы,
Шум дажджу, ветру спеў – ён у слове пасее…
Толькі сэнс таго слова  ці хто зразумее?..

## ВАРЛЕН

Заўжды ёсць выбар. Прага перамен
Ці паўсядзённасць, што гняце, руйнуе…
Страляе п’яны, стомлены Варлен
Не ў сэрца сябрава – у пустату нямую.

Сягоння – слава, заўтра – забыццё.
Ці бліжні твой, ці юда лоб цалуе?
Страляў ён у праклятае жыццё,
У нелюбоў спрадвечную людскую,

У подласць, зайздрасць – у сябе найперш.
І сык, і стрэлы слоў над галавою:
Які паэт, такі ж пачварны верш…
А ён з жыццём знаходзіўся ў двубоі.

Ён спаліць верш…А сэрца – нібы лёд…
За поўнач лямпа свеціцца ў аконцы …
І здзівіцца, прачнуўшыся, народ:
Чаму так цёмна, дзе прапала сонца?

* * *

Высыхаюць рэкі і азёры.
І бары пусцеюць з году ў год.
Дымам і бензінам горад хворы
Кашляе. І з пашчы тхне смурод.

А крычаць чыноўнікі нам з пыхай,
Што квітнее край наш. Камяні
Я збіраю … Гасне род пацiху
Без надзеі, веры, чысціні.

## ВЕТЭРАН

Ён стагнаў. Ён крактаў. Ён аб нечым далдоніў.
Ён хадзіў па шпіталі і жыць нас вучыў –
Ветэран, што прыехаў з Чарнобыльскай зоны.
Двойчы ён прывілеі свае заслужыў.

Ён нам скардзіўся:  не па заслугах, па блату
Сёння ўсё. І вакол яго толькі рвачы,
Махляры і зладзеі. Другую палату
Ён прасіў, каб і ложак ямчэй, каб харчы…

Ён дабіўся свайго… Хто пакрыўдзіць героя?
І цяпер мякка спіць. Смачна есць ён і п’е.
Нас пакінуў ён, храп свой забраўшы з сабою
І яшчэ не старыя шкарпэткі мае.

* * *

Ты – чалавек. Не ведаю цяпер…
Ці звер? О, не! Падобны, хіба, брэхам.
Сабе падобных забівае звер,
Каб пракарміцца. Ты – дзеля пацехі.
Баюся я не звера, а цябе.
І на замкі я зачыняю дзверы.
Як воран цела мёртвае дзяўбе,
Дзяўбеш жывых. Падлейшы ты за звера.
Прыдумаў ты халодныя муры,
І грошы ты прыдумаў, і кайданы.
Убачыўшы цябе, бягуць звяры
Ва ўсе бакі, шалёна, апантана.
Бягу і я -- па травах, па расе,
Ды толькі ад сябе хавацца марна…
Галоднымі глыткамі прагна ссе
Кроў з венаў ненасытная пачвара.

# СУВОРАЎ

Няхай крычаць, што ён герой – Сувораў!
А для мяне ён не герой. Хацеў
Край паланіць. Ён люты кат, каторы
Не шкадаваў ні матак, ні дзяцей.

Калоў штыкамі іх, цару ва ўгоду.
Знішчаў людзей, які ж тады герой?!.
Найпершы вораг ён майго народа,
Таму і асабісты вораг мой.

.

## МАНАЛОГ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

Радзіма ёсць, а разам з тым няма.
Шапчу я – “Беларусь!”. А мне – “Расія”.
Такая воля – горай, чым турма:
Чужая мова, песні тут чужыя.

Стаміўся я ад сцюжы і завей.
Шукаю свой народ, губляю веру.
Дзе ваяры за праўду?.. Вас заве
Кастусь... І край гукае касінераў.

Ды іх няма. Мо паўміралі ўсе?..
Хавацца па скляпеннях змрочных годзе!
Хай шыбеніца. Заклікаю: сей
Свабоды зерне, мілы мой народзе!..

Бывай, Марыся! Чую, што ідуць…
Бяздольнік-вецер застагнаў у полі.
А воля будзе! Кайданы спадуць.
Не страшыць смерць. Страшней за ўсё няволя.

## МОВА

1

Вяду з суседкай шчырую размову
Пра  ціхі Брэст, пра ўнукаў і дзяцей.
Гаворым з ёю мы на роднай мове,
Крывіцкай, – і становіцца святлей

У родным доме. Вее прыгажосцю
Ад цёплых слоў, ад маміных шпалер …
Шкада, не гаспадыняю, а госцяй
Ты, мова нат пад стрэхамі цяпер.

2

З маленства вучым мы чужыя мовы.
Пра родную забыліся. Чаму?
Ёй храм патрэбен – а яе ў турму.
Чужым багам маліцца мы гатовы.

Мы хто – народ, ці быдла?  У хамут
Запрэгліся, схілілі ніц галовы…
З маленства вучым мы чужыя мовы.
Пра родную забыліся. Чаму?

3

Імперыя… Мая тут мова
Нямее. Птушка – а без крыл.
І крыкнуць я не маю сіл,
І прамаўчаць … Ляцяць галовы…

О, колькі лёсаў і  магіл!
О, колькі будзе яшчэ новых!..
Ці здолею? Ці хопіць сіл,
Каб бараніць матулі слова?..

## КАЛЯДЫ

Вавёрачкі, птушачкі і зайчаняты.
Гірлянды,  і цацак багата шкляных.
Прысмакі калядныя – шчодрае свята.
Хрыстос нарадзіўся – спяваюць званы.

На пляцы збіраюцца хлопцы і панны.
Гуляе народ – заканчэнне паста…
Сусед мой на снезе расклызаўся, п’яны,
І гурт калядоўшчыкаў славіць Хрыста.

Ідуць бестурботныя ў масках і грыме,
З каляднаю зоркаю-весткай яны…
Цікуюць маўклівыя цені за імі
З глухіх калідораў і вочак дзвярных.

## БЕРАСЦЕ

Касцёлы. Вежы. Брукаванкі…
Быў горад. І раптоўна – знік.
Дый сёння дух жыве паганскі…
Адчайны, слёзны чую крык:
"Памілуй, Божа, і даруй!"–
Дзіцятка просіцца малое.
Цар не пачуе. Бо цару
Расейскаму ўсё тут чужое:
І мова, і народ. Тыран
Ня мае літасці. І Бога
Маліць дарэмна… Гвалт і страх.
Храм знішчаны… Дамы гараць.
І ад мінулага нічога…
Адзіным росчыркам пяра.

## ВІШНЯ

Засохла вішня…

Яшчэ нядаўна ведаў вішню белай,
у квецені, прыгожай, маладой.
Тут мы адпачывалі, тут кахалі
пад ласкаваю засенню лістоты.
Тут ластаўкі ў прыцемках ружовых
нам вершыкі пяшчотна шчабяталі.
Праменняў сонечных усмешка ззяла.
І ўсмешка слоў.
А пахі расцякаліся вакол
салодкім цестам, воблакам мядовым,
і – пчоламі галінкі набухалі.
Цяпер тут гэтак ціха і бязлюдна, –
і чорны цень кладзецца нерухома
на дол халодны…

## КРЫЖ

Іду па дарозе.
За вёскай крыж стаіць, стары, драўляны:
крылы абвіслі, патрэсканая галава,
белым ручнікам перавязаныя грудзі.
Дакрануўся.
Пахіліўся мой крыж
і зваліўся зусім.
Падняў я яго,
на шурпатыя плечы ўмасціў і панёс…
Ідуць насустрач дзецюкі, з мяне смяюцца:
– Што гэта , дзядзька, ты на  плечы ўзваліў
і куды шлях трымаеш?”
Усміхнуўся  я горка і адказаў:
– Гэта песню сваю я нясу на клады ,
куды і мяне панясуць аднойчы.
Але не будзе мне цяжка
пад стромкімі соснамі:
са мною будзе яна, мая ціхая песня –
патрэсканая, белым ручнікам перавязаная,
мая Беларусь – раскрыжаваная, самотная.

## КРУМКАЧ

Сядзіць на плоце шэры крумкач,
пасміхаецца з мяне:
– Дзе быў, што бачыў, што чуў?
– Нідзе не быў, нічога не бачыў і не чуў.
– І  што цябе трымае
на гэтым лапіку зямлі?
–Бацькоўская хата,
якая стаіць на тым месцы,
дзе была хата майго дзеда і прадзеда;
агарод за старым плотам,
які мяне корміць з году ў год;
клады за вёскай,
бацькі;
суседзі, з якімі даўно звыкся…
– Звыкся з няволяй? – пасміхаецца крумкач. –
На, бяры мае крылы, ляці…
Падняў я з зямлі камень
і  шпурнуў у яго бок.
Паляцеў крумкач…
Тугу пакінуў.

## СЛЯПЫ

Параднёны з цемраддзю,
чакаю сонца.
“Святла!” – цягну да неба рукі.
“Святла!” – трымаю рукі над крыніцай.
Гукаю і шукаю тое,
што пальцамі не ўмею прачытаць.

## СТАРАСЦЬ

Раптам, пасярэдзіне ночы,
разбудзіла мяне
сваім  шорхатам-піскам
мыш-палёўка.
Не дае заснуць.
Вось і зноўку прыйшла яна,
ускараскалася на канапу
і пазірае нахабна мне ў вочы.
Але яна ўжо не выклікае ў мяне
ранейшага страху і агіды.
Я хоць і не палюбіў яе,
але даўно звыкся з ёю.
Я слухаю-адчуваю,
як недзе глыбока ўва мне
жыве яна –
дзверы ў нябыт.

## ГОЛАС

*Абаронцам Брэсцкай крэпасці*
*прысвячаю*

Самотны і трывожны гэты голас.
Ён – крык абаронцаў крэпасці.
Ён – перадсмяротная песня салдат.
Не спяваецца гэтая песня.
Толькі там, каля царквы,
дзе плачуць званы, яна стогне.
У крэпасці, між развалін,
дзе мёртвыя салдаты ляжаць,
нямая яна…
Плача з надрывам вецер
каля цэнтральных варот.
Хвалямі слёз напаўняецца горла.
ляціць ён, як прывід, ад сцяны –
шрамы на душы пакідае.

## КРЫНІЦА

У раку маіх рук уваходзіць лета,
млявае, як вечаровы пацалунак сонца.
Ці не таму змялела рака,
што, аблашчаная цяплом,
спыніла свой рух да мора,
перастала змагацца з плынню часу
і заснула?..
Ці не таму мае вусны прагна шукаюць крыніцу,
каб наталіць смагу жыцця?..
Б’ецца, звініць, пяе крыніца,
а над ёю – завірухаю сонца шуміць.

## ЯК ПАМІРАЛА ВЁСКА

Спачатку не стала ў вёсцы кароў –
ціха вымерлі, нібы яшчары паліяліта.

Затым пчолаў не стала – абярнуліся ў трутняў.
Потым знік смех дзіцячы, прапалі і звонкія
песні.

Напаследак і п’яныя лаянкі сціхлі, і брэх сабак.

У маёй вёсцы старыя ўсе паўміралі,
а потым пачалі паміраць маладыя.

## БУСЕЛ

Адзінокі бусел на лузе:
высокі, худы, нязграбны.
Распусціў белыя крылы,
сядзіць пануры –
без буслíхі, без буслянят.

Чорная хмара плыве над краем…

## МАНКУРТЫ

Манкурты мы… Гультайства. Злосць. Мана.
Адчай. Знявага. Зайздрасць і распуста.
Вядуць на бойню, быццам быдла, нас.
А ў душах нашых, што ў кішэнях, пуста.

І брата праклінае родны брат.
А мы танцуем пад чужую дудку.
Страх у вачах, тупы быдлячы страх,
Які, калі і знікне, дык не хутка.

## ХАТКА ПАЛЯЎНІЧАГА

Мяшок нерухомых зайцоў на стале.
Скамечанай скурай ліюцца апоны.
І чучала філіна – высахла ледзь.
Зязюльчыны пёркі і пер’е вароны.

За прыпечкам стрэльба, на печы хатуль.
На покуце ў рамцы цямнеюць святыя.
І вочы, халодныя вочы, – паўсюль,
Адкрытыя вочы звяроў і сляпыя.

## СТУДНЯ

Лякала нас бяздоннасцю нутра.
Ды вабіла маўклівай прахалодай,
Пазвоньваннем імклівага вядра
І вусцішнай таемнасцю заўсёды.

Дзесь там, на недасяжнай глыбіні,
Куды не далятаў бляск промняў яркіх,
Жыў дзед стары – кудлаты вадзянік –
З дачкой сваёю – гожаю русалкай.

Ніхто не бачыў іх. Але яны
Сябе ўдавалі смехам, злосці поўным,
Апоўначы наведваліся ў сны,
Змушалі пра сябе штодзённа помніць.

І каб задобрыць іх, кідалі хлеб
У студню мы і розныя прысмакі.
І голас пераходзіў наш на шэпт.
Цішэлі смельчакі і задавакі.

Зірнеш туды – і холад ахіне.
А з люстрадзі – аблічча, бы ў тапельца.
Адважышся, бывала, і гукнеш –
Па студні рэха доўга птушкай б’ецца,

Бы трапіла ў сіло і аніяк
З яго палону вырвацца не можа.
І хочацца крычаць. І цягне так
Туды, на дно, дзе смерці змрок абложны.

* * *

*...Шчэ пажывём у скрадзенай Айчыне*
*Аляксандр Яравы*

Ніхто не верне радасць мне і свята.
Вясну чакаю, а цяпла няма.
Смуга. Кружляе вараннё над хатай.
І поле, лес, дарога – у дымах.

Калыша вецер дрэвы нудна, гучна.
А ты, а вы... Навошта?.. Пустата...
Наступіць ноч, спаўе і будзе мучыць:
Не так я жыў, не так жыву, не так...

Наш час не наступіў. Калі? Не знаю.
Ён хлусамі спалонены. Няма.
Так сталася. Над звар'яцелым краем
Аблогай непрагляднаю зіма.

Здавалася б – вось сонца, гэтак блізка.
А снег па вокны... Спіць глыбокім сном
Мой родны край – крыжы і абеліскі...
Ды мы не зломлены, яшчэ мы пажывём.

## ДУДАЧКА

*Францішку Багушэвічу*

Ой, змайструю дудачку,
Ціхенька зайграю.
Паляціць мелодыя
Ды над роднай краем.

Па-над салаўіным
Гаем, над балотам, –
Па-над журавінамі,
Залатой лістотай.

Над празрыстай Начаю,
Досвіткам ружовым…
Запяе хай матчынай,
Мілай сэрцу мовай.

## МАНАШКА

За сценамі каменнымі да скону.
Аконца ў свет. Паўзмрок і пустка.
Свой час малітве аддае натхнёна
І ўсё глыбей затульваецца ў хустку.

У Бога просіць ласкі. Тыя словы
Гучаць, як песня, як дзяцінства згадка…
Грудзей спалох, бы сполах вечаровы,
Хавае ў сваю чорную апратку.

## РЭАНІМАЦЫЯ

І бачыў я пачварную карціну:
Зямлю, пакрытую атрутным дымам,
Агонь Пампеі, разбурэнне Рыма.
І Троі велічнай маўклівыя руіны.

Ды дзіва: дзе палын быў і асцё,
Атожылкі жывыя прарасталі
І радасна пад ветрам трапяталі.
Зямля вітала новае жыццё.

Ачнуўся я – свяціла ў небе сонца.
Вясна раскашавала за сцяной.
І сын мой нахіліўся нада мной…
І зразумеў я, што жыццё – бясконцасць.

## ШЛЯХ

*Памяці Анатоля Сыса*

Мяняў імёны, ролі і жанчын
І ўсіх учынкамі здзіўляў сваімі.
Самотны. Хоць з сябрамі – ды адзін.
І вершаў не пісаў, а жыў ён імі.

Ён піў віно. З крывёй. Зямных багоў
Ён скідваў, нібы смецце, з п’едэсталаў…
Над прорваю ляціць душа яго
У лесвічным пралёце за Купалам.

* * *

Душа – турма, куды святла прамені
Праз краты думак рэдка далятаюць.
На дне яе такія спусташэнні,
Мярзоты гэткія… Я зазірнуў. Я знаю.

О смутак! О журба! Іх след не сцерці
Ні смакам славы, ні сяброў увагай…
Мацнее і расце жаданне смерці,
І, разам з тым, жыцця мацнее прага.

* * *

Акно адчыніш – і свабодны,
Ляці – насуперак, наўзлом!
Нібыта лёд, паток халодны
Бязлітасна ўварвецца ў дом.

Праніжа вострымі цвікамі,
Саб’е  і затрымае лёт…
Глытаць і біць яго рукамі,
Крышыць  зубамі гэты лёд!

* * *

Горад. Агні…
Агні – памінальныя свечкі.
Душы згараюць.
І дні…
Вечнасць…

* * *

Сціскае ноч халодным колам
Кусты, развіліны дарог.
Зіма ўжо хутка. Гоняў голых
Я чую дзікі, страшны стогн.

Бы мерцвякі, застылі грушы.
Гразь. І з дажджом пякучы снег.
Ноч… Сцісне горла і задушыць,
Здаецца, гэты змрок  мяне.

## ПРАЗ ДОЖДЖ

Праз сад іду. Дождж па лістах зжаўцелых
Сцябае аднастайна ўпарта. Мокнуць
Аслеплыя ад слёз бясконцых вокны.
І змрочна на душы маёй збалелай.

За цёмнымі ствaламі ноч застыла.
Вунь птах трапеча роспачна ў траве.
І мышаня з нары кагось заве.
Ціш, бы драпежнік, вушы навастрыла.

Хлюпоча дождж па стрэсе і па плоце…
Мне пяцьдзясят ужо. Ссівелы голаў
На грудзі звесіў хмура, невясёлы.

Праз дождж іду – пустэльня, змрок наўкола.
Цапамі дождж гадоў маіх малоціць
Жніво. Звярнуў у восень я ў самоце.

* * *

Крычаць у небе журавы.
Трывожныя насталі ночы.
Лісток апалы, шчэ жывы,
Малітву ціхую шапоча.

Не спіцца мне. Я страціў сон.
Іду па вуліцы, па сцюжы.
І гул званоў, і неба звон –
Разбітым шклом замерзлых лужын.

* * *

Не снегу чыстая краса
Мяне так вабіць – снегу горы.
І не бялюткі зімні сад –
Гурган у ім самотна-чорны.

Таемны, нібы смерці знак.
Глядзіць мне ў вочы, горда, смела...
Так радасна, самотна так –
Цень крылаў: чорнае на белым.

* * *

*Максіму Багдановічу*

Вось і птушкі замоўклі ў гаях.
Змрок накрыў і дарогі, і гоні.
Разгараецца свечка мая,
Што запалена на падваконні.

Ты гары, мая свечка, гары!
Матылёчак ты мой, яснакрылы.
Не згарай да апошняй зары.
Дай жыццём мне нацешыцца, мілы.

Мяне, любая, ты не журы,
Што так рэдка шапчу пра каханне.
Маё сэрца палае, гарыць,
Толькі блізіцца час развітання.

Я ўсяго толькі госць на зямлі.
І, калі мяне болей не стане,
Свечку, любая, ты запалі…
Матыльком прылячу на спатканне.

* * *

Свет напаўняецца сумнымі спевамі.
Цёмна так стала навокал і днём.
Парк пастарэў, і між чорнымі дрэвамі, –
Змрочна кружляе, крычыць варанно.

Людзі навокал такія няветлыя.
Колькі ж прайшло, як рунелі палі,
Сонца свяціла вялізнае, ветлае,
Цуда-аблокі над намі плылі?..

Колькі ж прайшло, як з табою кахалі?..
Сёння   няма  каму слова сказаць.
Белыя птушкі ў нябёсах прапалі, –
Чорныя пёры да долу ляцяць.

* * *

Прачнуцца сярод ночы...
Страх сэрца скалыхне:
Так жудасна грукоча
Гадзіннік на сцяне.

Раз'ехаліся дзеці,
Пакінулі сябры.
Адзін на цэлым свеце.
Душы адчайны крык.

Дождж за вакном хлюпоча...
Як там сынок, унук?..
Прачнуцца сярод ночы.
Да ранку не заснуць.

* * *

Прынесла ноч мне смутак, неспакой.
Сцякае сонца з хмар. Святлеюць дрэвы.
Прачнуўся я сягоння сам не свой:
Прымроіўся мне сёння бераг левы,

Дзе скончу назаўсёды свой палёт
Я ва ўладаннях змрочнага Харона.
Так, левы бераг – вечны холад, лёд,
А правы бераг – неспакой  да скону.

## МАРА

Я ў горадзе – ужо другую восень –
Жыву, ніяк прывыкнуць не магу.
Стаяць дамы замест бяроз і сосен.
І песню салаўя машыны гул

Змяніў. Гракоў крыклівых зграя
Спаць па начах мне не дае. Віднець
Чамусьці тут так позна пачынае.
І сэрца зачасціла зноў балець.

Збягае ў горад моладзь. Што той горад?!.
Навокал  шум, паспешнасць, таўкатня.
Тут з камяніц зусім не бачна зорак…
Мне б вецер зацугляць, нібы каня,--

І ў поле, дзе бясконцыя прасторы,
Дзе неба васількавага блакіт.
Хаця б на дзень пакінуць душны горад
І ў весачку, хаця б на дзень які!..

## ВОЗЕРА

У дно ўцяліся вербалозы,
Нібы кінжалы, гнуцца аж.
І танкаствольныя бярозы
Глядзяцца ў возера наўсцяж.

Дна не відно зусім – сутонне.
Зжаўцелы на вадзе лісток,
Яго кудысьці хвалі гоняць...
Там замка бель, што ўкляты ў змрок.

Там волі дух – на дне – жаданы
Лунае. Дзед, як свет, стары
Пасе там зорак караваны
І разнявольвае вятры.

Гляджу на хвалі. Апантана
Плывуць кудысьці. Звон нябёс
Чуцён. А возера, як панна,
Гайдае сонца ў промнях кос.

## НАЦЮРМОРТ

Скідае дрэва лісце ў жорны восені.
Як куст бружмелю, ссохлы нікне дзень.
І косіць, косіць дождж даўгімі косамі
Палі, зусім пустыя, ноч і дзень.

Дзе гоман плыў, цяпер маўчанне дзікае.
У вокны зрэдку сонца зазірне.
І жаласна ў хляве карова рыкае.
А з кветак, што завялі, смерцю тхне.

* * *

З пакінутага горада начнога
Сышоў ліхтар, ледзь свеціць ля дарогі.
За мной мой цень  пляцецца,  змрочны, шэры –
Нам доўга, аж  да ранку, крокі мерыць.

* * *

Буду зноў блукаць па горадзе да рання,
Покуль сон на лаўцы дзе не зморыць.
І прысняцца мне сады кахання,
Квецень бэзу і маленства зоры.

Мне прысніцца: маці вокны мые,
Я нясу ваду з крыніцы  маме…
Мне не будзе холадна – акрые,
Як матуля, восень туманамі.

І няёмка, мулка мне не будзе
На драўлянай выцвілай пасцелі.
З пажаўцелых дрэў лісцё на грудзі
Восень, бы пярыну, мне пасцеле.

Сонцу, травам, кветкам, нібы цуду,
Радуюся. І далёкім зорам …
Зноў блукаць па горадзе я буду,
Покуль сон на лаўцы дзе не зморыць.

## ПЕРАД ЦАРКВОЮ

Тленнае ўсё на зямлі. Мы – пясчынкі з табою.
Дзе б ні было, прыпынюся я перад царквою
І памалюся на крыж, і схілю я калені.
Тут, на зямлі гэтай, мы – толькі цені.
Воблака цені, якое ціхутка сплывае.
Гучна на свет мы з'яўляемся, ціха знікаем.
Так, нас не будзе калісь. Толькі плакаць не трэба.
Станем травой прыдарожнай ці птушкаю ў небе.
Ластаўкі шчасна выводзяць кругі над зямлёю…
Тленнае што ні вазьмі, але ўсё і жывое.

* * *

Ляцяць  з цемрадзі майскія жукі
ў кашлатыя сховы бэзу –
прытулак ночы.

* * *

Матуля прадзе кудзелю:
намотвае на верацяно
ніткі думак.

* * *

У сіні велізарны вечар
узіраецца хлопчык маленькі:
у Сусвеце паспела зорка.

* * *

Вечарэе…
У цьмяны гушчарнік бэзу
спадаюць чырвоныя сонцы.

* * *

Ля ціхмянай хаты
шалёна квітнее яблыня.

* * *

Вясна.
Зноў ля бацькавай хаты
зазвінелі пчоламі
сады.

* * *

Восень.
На зямлю спелымі яблыкамі
ападаюць дзяцінства
ўспаміны.

* * *

З высокіх комінаў цягнецца ўгару дым, –
вымярае, колькі важыць
мінулы дзень.

* * *

Завея. Цямрэча, а ліхтар не гарыць, –
скардзіцца ноч.
А можа, яму наканавана ўспыхнуць
у іншай ночы.

* * *

На падворку ночы
вые сабака –
размаўляе з зорамі.

* * *

Шэрая курапатка капае снег:
у белых гурбах шукае
вясну.

* * *

Пахаванне:
аплаквае вёска
ненароджанае дзіця.

* * *

Ноч:
панна
Папялушка
зоркі
пасе.

* * *

Квяцісты луг:
шукаю
я
траву.

* * *

Раса:
ранак
раіцца
радасцю.

* * *

Пустазелле:
засеяў
поле
помстай
грак.

* * *

Певень:
голасна
гонар
гарлапаніць.

* * *

Маланка:
жудасна
жагнаецца
жалезная
лэдзі.

* * *

Малодзіва:
нарадзілася
нерушнае
немаўля.

* * *

Воблакі:
цені
летуценняў
ціха
плывуць.

* * *

Век не быў дома.
Дзверы адчыняю
не сваімі рукамі.

* * *

Вечарэе. Запальваю камін.
На вугалёк гарачы
сонца садзіцца.

* * *

Начны ліхтар
дзіды крутых праменняў
высвечвае з-за хмар.

* * *

Ля магілы маці
вырас куст палыновы:
кветка маёй жалобы.

* * *

Дзівіцца неба:
рыжавалосы хлопчык
ловіць у лужыне сонца.

* * *

У цішы вечаровай
слухаю музыку поля:
цвіце васілёк.

* * *

Ідзе па нерушы белага снегу
маленькі хлопчык:
прывід майго дзяцінства.

* * *

Рыжым сабакам
разлёгся пасярэдзіне дарогі камень –
не пускае мяне.

* * *

Важна расселіся на
голых галінках дрэў гракі –
пішуць ноты восені.

* * *

Туман
кранаю рукою –
мацаю вякі.

* * *

Цвіце адвячорак
тваім імем,
Каханне.

* * *

Ранак.
Блакітныя сны –
яснеюць
прысады.

* * *

Птушкі сядзяць на голых дрэвах –
чорныя гнёзды
расстання.

* * *

Праз галінкі дрэў
свеціцца неба –
белая птушка.

* * *

Іду ў восень.
Шэры прыцемак –
сівеюць мае валасы.

* * *

Ізноў прыйшла вясна.
Адчыняю акно –
слухаю жыццё.

* * *

Ляжу на спіне…
Ноч страсае з неба
пераспелыя зоркі.

* * *

Адыходзіць чалавек –
рэха ўласных
крокаў.

* * *

Сею зерне
поўнай жменяй –
вырастаюць камяні.

* * *

Выйшаў раніцай маленькім хлапчуком з дому…
Вярнуўся – ужо пяцьдзясят.
Ніяк не магу ўспомніць,
дзе праблукаў столькі часу!?

* * *

Выпаў снег.
Пабялела поле, двор…
І душа.

* * *

Восень. Лісце злятае...
Аголены сад
душы.

* * *

Паразбягаліся дзеці
і пакінулі мяне аднаго
на камені думак.

* * *

Дажджы размываюць дарогі.
Гады – душы.
Застаецца адчуванне віны.

* * *

Доўгая ноч.
Чорны павук тчэ павуціну
думак.

* * *

Ах, цвыркуны!
Стракочуць у цёмнай цішы
буйныя зоркі.

* * *

Навастрылі дзюбы
кропелькі
дажджу.

* * *

Добравест…
Сыплецца белы снег,
звініць…

* * *

На мокрым ганку,
бяздомным сабакам,
згарнулася
ноч.

* * *

Каровы прагна п’юць
з рэчкі
неба.

* * *

Сонны пастух выпускае з хлява
маладзенькае
сонца.

* * *

Жнівень.
Гарыць ядловец
сонца.

* * *

Божа! Як хутка час бяжыць:
заснуў на хвіліну – у вясне,
а прачнуўся – зіма.

* * *

Страшна ступаць па расе
на золку –
зорак асколкі.

* * *

Узіраюся ў люстэрка –
шукаю свой
твар.

* * *

З ацяжэлых галін
скідае восень лісцяў
успаміны.

* * *

Трыснёг самотны
стыне ў вадзе –
адбітак кратаў.

* * *

Сцюжа.
Адзела неба з  аблокаў
аўчыну.

* * *

На касцёльным цвінтары
ціха ўкленчыла
малітва.

* * *

Прамень сонца
злавіла кветка
і не хоча адпускаць.

* * *

З летуцценняў
нарадзілася
сонца.

* * *

На камені – звіліны.
А можа ён, як чалавек,
мысліць?

* * *

Дождж.
Чарвяк з пад ліста спалоханым вокам
сочыць.

* * *

Лістапад.
На халодны дол
барвовы лісток
прылёг у знямозе.

* * *

Хаўтуры.
Ажывае
памяць.

* * *

Птушка:
кроплі расы
прагна п’е
сонца.

## ЗМЕСТ



## НЕРУШНЫ СВЕТ

**ДАСПЕЛЫМ ЯБЛЫКАМ**

## ПОЛЫМЯ СВЕЧКІ

## НІТКІ ДУМАК

